# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№ 7 (108)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


"Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай".
**Ул. Караткевіч.**



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## "МЫ – ПЕРАМОЖЦЫ!"

9-га мая беларусы адзначылі 67-ую гадавіну Перамогі савецкага народа ў вайне 1941 – 1945 г.г. Як звычайна, святкаванне прайшло з вялікай помпай. І ў Бешанковічах, як і па ўсёй Беларусі, гучалі пампезныя прамовы, узнімаліся чарговыя тосты, грымела поп-музыка і ракой ліліся песні. І за ўсёй святочнай мішурой і алкагольнымі ўцехамі, думаецца, рэдка ў якую чалавечую душу закрадаўся сапраўдны смутак аб тых, хто нeяк меў дачыненне да гэтай вайны. Каму чарговы напамін пра яе быў невыносна балючы, як любой матцы баліць згадка пра сваё страчанае дзіця.

"Мы – пераможцы!" – гучала ў кожнай прамове і ў кожным віншаванні. Гэта значыць, мы – самыя моцныя, наймацнейшыя ў свеце. Нашай уладзе так хочацца быць імі і праз амаль 70 гадоў, што яна гатова закрыць вочы на ўсё астатняе. Найперш на тое, што для беларусаў гэта была страшная вайна на вынішчэнне народа, якая пачалася не на світанку 22 чэрвеня 1941-га года, а значна раней. Супраць нас яе распачаў "вусаты бацька" недзе напачатку трыццатых гадоў, знішчаючы сотні тысяч лепшых беларусаў без суда і следства. Спачатку ў Савецкай, а пасля "вызвольнага" паходу 17 верасня 1939-га года і ў Заходняй Беларусі. Эшалоны, падрыхтаваныя для вывазу заходніх беларусаў у Сібір, стаялі напагатове нават ранкам 22-га чэрвеня 1941-га.

Напад Гітлера на Савецкі Саюз быў чарговай чумой, якая для беларусаў ненашмат адрознівалася ад папярэдняй. І сталінскія і фашысцкія захопнікі паводзілі сябе на тэрыторыі нашай краіны аднолькава: лёс простага беларуса іх ніколькі не турбаваў. Ведаючы пра тое, што немцы не даруюць забойстваў немецкіх салдат і ў адказ расстрэльваюць і паляць цэлыя вёскі, блізу якіх адбываліся тыя забойствы, сталінскія пасланцы-камуністы, а потым і партызаны распачалі сапраўдны тэрор супраць беларускага народу. Разлік быў просты: яны забіваюць немцаў, тыя паляць вёскі, беларускі народ уздымаецца на барацьбу супраць захопнікаў. Як вынік той вайны – 618 вёсак, якія былі спалены на тэрыторыі Беларусі разам з насельніцтвам! І абсалютная большыня з іх, калі не ўсе, была спалена не немцамі, якія ў той час ваявалі на фронце ў Расеі, а сваімі, прадстаўнікамі таго самага "савецкага народа", які потым аб'яўляць пераможцам у гэтай вайне. То бок, палілі тыя, чые сем'і Сталін перад вайной растаптаў – раскулачыў і выслаў у Сібір. Вярнуўшыся, яны атрымалі магчымасць папомсціцца бальшавікам. Так што забівалі і палілі ў пераважнай большасці свае сваіх!

"Мы – пераможцы!" Тая грамадзянская вайна, якую Сталін распачаў на Беларусі ў трыццатыя гады і якая потым тры гады ішла ў глыбокім тыле фронту, мела вельмі сумныя вынікі: страты насельніцтва Беларусі з 1930-га па 1945-ы склалі больш 3-х мільёнаў чалавек. І ніхто ў Савецкай Беларусі не рабіў асаблівых высілкаў, каб ўстанавіць тую лічбу дакладна. Таму што абсалютная бальшыня загінулых беларусаў палегла не на франтах вайны, а была знішчана сваімі ж беларусамі ці прадстаўнікамі "савецкага народу" ў братазабойчай грамадзянскай вайне ў глыбокім тыле.

Па вайне савецкая дзяржаўная ідэалогія зрабіла ўсё, каб тыя, хто загінуў на ёй у 1941-м – 1945-м сталі героямі, а тых, каго напярэдадні ці ў вайну забіў Сталін і ягоныя паслугачы, пастараліся забыць. Бо немцы і Германія – мусілі выглядаць у вачах беларусаў захопнікамі, а Сталін і Расея – нібыта свае, родныя. А ўся розніца толькі ў тым, што расейцы захапілі нашу краіну раней за немцаў, але паводзілі тут сябе не лепш захопнікаў.

"Мы – пераможцы!" За семдзесят з гакам гадоў, што мінулі з тых часоў, мы так і не змаглі аднавіць Беларусь. Бо ніколі з тых часоў мы не мелі, як не маем і сёння, сваёй уласнай дзяржавы з кіраўніцтвам, якое б змагло з'яднаць беларусаў як нацыю на вялікія справы. Намі пастаянна маніпулявалі і працягваюць маніпуляваць. Нас пастаянна раз'ядноўвалі і працягваюць раз'ядноўваць. Нам ніколі не давалі магчымасці аднавіць сваю сапраўдную гісторыю, святкаваць свае святы і вучыць сваю мову. І ў нашы дні нас пазбаўляюць тых каштоўнасцей, на падставе якіх мы маглі б з'яднацца ў нацыю. Сёння, у мірны час, здаецца, ужо ў незалежнай краіне нас зноў, як і ў вайну, раздзялілі на "сваіх" і ворагаў –нейкую "пятую калону". Гэта вельмі зручна для ўлады, якой заўсёды патрэбен вораг, каб апраўдаць свае пралікі і паразы, каб кіраваць вечна.

Затое ўзамен нам даюць магчымасць быць пераможцамі. Праўда, толькі на адзін дзень і за свой кошт. І хаця назаўтра баляць галовы, затое ў беларусаў не ўзнікаюць недарэчныя пытанні кшталту: "А чаму мы сёння жывём так бедна? А чаму нам плацяць такі мізэр? А чаму наша ўлада не выбіраецца, а прызначаецца?"

Для мяне ж дзень 9-га траўня ў першую чаргу – Дзень памяці і смутку. І па тых, хто не вярнуўся з франтоў вайны. І па тых, хто быў забіты ці спалены на сваёй радзіме. І па тых, каго перад вайной незаконна рэпрасавалі. І па тых падманутых немцах, якіх гвалтам прымусілі ісці ў чужыя землі, каб шукаць там сваё шчасце. …

Па ўсіх, хто лёг ці ў сваю зямлю, ці ў чужую.

Па ўсіх, хто мог бы жыць і жыць.

Акрамя тых, хто чыніў зло.

**Г.Станкевіч.**

## ПАРА ІЗНОЎ НА БОЙ!

*Хапіла б мне і той, адной вайны!*
*Я ганаруся подзвігам салдацкім.*
*Ды забываюцца адважныя сыны,*
*Што спяць аж з той вайны*
*Ў магілах брацкіх.*

*Сябры мае, пара ізноў на бой!*
*Вы чуеце: хвалюецца народ наш.*
*Наўкол і гвалт, і плач,*
*І разарэнне, і разбой,*
*І наш народ –*
*Жабрачы і галодны.*

*А мільянеры? Ёсць!*
*А махляры? Навалам!*
*Прыватызацыя!*
*І ўсё, дзе ты рабіў і жыў,*
*Падаткам фантастычным*
*Абклала і скавала*
*Чыноўніцкая дрэнь…*
*Далей – забойствы, грабяжы.*

*На бой! –*
*Супроць нягоднікаў*
*І хабарнікаў подлых,*
*Нахабных раскрадальнікаў*
*Багацця і красы.*
*Вось калі трэба зноў*
*Усенародны подзвіг,*
*Як і ў саракавыя*
*Грозныя часы.*

*Сябры мае,*
*А рынку я не вораг,*
*Бо ведаю:*
*Патрэбна нам*
*Не красці, а рабіць,*
*Каб раўнадушша ўсіх*
*Прыбітых, бедных, хворых*
*З жыцця зноў знікла ў нас,*
*А час прыйшоў любіць.*

**Пімен Панчанка.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## "СПАСІБА ЗА ПОБЕДУ!"

Так скандыравалі 9-га траўня падвучаныя дзеці, калі блізу іх праходзілі ветэраны. Здавалася б, што гэта так прыгожа і кранальна. Толькі вельмі ўжо перагукваецца гэта "спасіба" з тым далёкім "спасіба" бацьку ўсіх народаў "за шчаслівае дзяцінства". Здаецца, што акрамя гэтага навучанага "спасіба" ветэранам няма чаго больш і сказаць.

А іх сёння засталося так мала, што кожнаму з іх можна было выказваць персанальнае "дзякуй" і падтрымку не толькі 9-га траўня, а кожны дзень. Гэту падтрымку і клопат не пачулі мільёны іх паплечнікаў, хто загінуў падчас вайны. А многія тысячы з іх і сёння лічацца яшчэ прапаўшымі без вестак і непахаванымі ляжаць у ржэўскіх балотах. Як не пачулі тое "дзякуй" і мільёны ўдзельнікаў вайны, хто ўсе пасляваенныя гады мусіў галадаць і быць прыніжаным, а ў горшым выпадку змушаны памерці за кратамі сталінскіх лагераў. Як і мільёны тых, хто, застаўшыся інвалідамі, мусіў існаваць на жабрацкія грашы.

Сённяшнія чыноўнікі падвучаюць дзяцей крычаць "спасіба" апошнім ветэранам, каб абяліць сябе саміх. Патанаючых сёння ў раскошы і ствараючых толькі бачнасць дзейнасці. Менавіта таму ім так хочацца далучыць да сябе рэшту тых ветэранаў, якія мелі шчасце дажыць да нашага часу. Паказаць усім, як нібыта пабацькоўску клапоцяцца сёння чыноўнікі аб 20 000 старэнькіх грамадзянах рэспублікі. Нібыта гаворачы астатнім: "Вось вы змагайцеся за нашу радзіму, і на старасці гадоў вас таксама не забудуць." Жыццё ж бальшыні простага люду сёння не на шмат адрозніваецца ад становішча бальшыні ветэранаў у савецкія часы. З той жа непавагай а то і з адкрытым здзекам сёння сутыкаешся на кожным кроку пры зваросе ў любую інстанцыю. Бо за амаль 70 прамінулых з часоў вайны гадоў грамадзяне Беларусі так і не атрымалі магчымасці стаць гаспадарамі на сваёй зямлі.

У нас у краіне створана стройная сістэма іерархіі, спрыяльная толькі для чыноўнікаў. І дасёння існуе знакамітая сталінская выбарная сістэма з сталінскімі урнамі для галасавання і з сталінскай сістэмай падліку галасоў. І дасёння існуе сталінская сістэма падаўлення асобы, калі тая асоба мае небяспечныя для ўлады погляды. І дасёння існуюць калгасы, дзе адны працуюць, а іншыя пажынаюць плады іхняй працы. Супраць гэтых калгасаў выступалі ўсе тыя, хто здабыў нам Вялікую Перамогу. Хто прайшоў праз голад 30-х гадоў, а ў саракавыя быў змушаны ўзяцца за вінтоўку. Хадзіла показка, нібыта ў 1941-м на фронце салдаты пыталіся ў Жукава, ці будуць калгасы існаваць пасля вайны. І той адказаў: "Не, не будуць. Будзе штосьці іншае." І гэты адказ перадаваўся на фронце з вуснаў у вусны і стаў адной з галоўных ідэалагічных чыннікаў Вялікай Перамогі.




Падвучыць дзетак крычаць сёння "спасіба" нашмат прасцей, чым пераканаць у вайну салдат ваяваць за Радзіму. Многія чытачы, пэўна, не ведаюць, што з 1942-га года для ўзмацнення таго пераканання ў тыле сваіх войск начальнікі Чырвонай Арміі ставілі кулямёты, якія стралялі … па ўцекачах, па сваіх. Так яны выконвалі сталінскі загад: "Ні кроку назад!"

Сёння ж, каб выхаваць патрыётаў, не трэба махаць 9-га мая сцяжкамі, крычаць "спасіба", тым больш ставіць дзесьці кулямёты. Трэба проста стварыць у краіне нацыянальную сістэму адукацыі і выхавання на роднай мове. Стварыць умовы, спрыяльныя для таго, каб на нашай зямлі ўзрос чалавек новага тыпу. Які б ведаў свае карані і сваіх продкаў. Які б паважаў ветэранаў не толькі апошняй вайны. Які б святкаваў не толькі перамогу 1945-га. Які ведае і пра Грунвальд, і пра Крапівенскае поле. Які ведае пра Вялікую Перамогу і пра вялікі падман мільёнаў. Падман пераможцаў, хто тую Перамогу выкаваў, а так і не здолеў дачакацца для сябе нейкага плёну.

**Г.Станкевіч.**

## "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/** , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html** , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАРОДНАЯ ТРЫБУНА

# ПАСЛАННЕ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

Я яго слухаў вельмі ўважліва, баючыся прапусціць нешта галоўнае, але быў крайне расчараваны. Бо анічога новага для сябе я так і не пачуў. Калі б наш прэзідэнт папрасіў скласці такое пасланне нашаму народу мяне аднаго, упэўнены, атрымалася б лепш. А над гэтым жа пасланнем папрацавалі дзесяткі, калі не сотні, самых высокастаячых чыноўнікаў! А колькі грошай на іх утрыманне ўбухваецца штодня!

А што яны для нашага прэзідэнта ў тым пасланні напісалі? Старая песня, перакручаная на новы лад. Тыя ж абяцанкі-цацанкі пра 500-даляравыя заробкі, якія вось-вось абваляцца на нашы галовы. Што мы будзем рабіць з тымі вялізнымі грашыма, якія нам абяцаюць даць ужо да канца года, проста не ведаю. Навошта яны нам? Мы так прывыклі жыць на 100-200-даляравы заробак, што зараз аж галава кружыцца, як падумаеш пра 500 баксаў. Мы ж абленімся, тлушчам заплывём! А зусім яшчэ нядаўна, перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі, нам абяцалі скорыя 1000-даляровыя заробкі. У мяне і газетка з тымі абяцанкамі захавалася ад снежня 2010-га. Там гэта чорным па беламу стаіць. Так мы хутка дагонім і перагонім саму Амерыку. (Тым больш, што гэта ўжо калісьці ў нашай гісторыі было і прычым не адзін раз.)

Ці ўзяць выказванне пра "дастойных людзей"-крымінальнікаў, якія сядзяць па турмах, і "пятую калону", якую чамусьці прыходзіцца адтуль выпускаць. Таксама старая песня. Ну хоць забі, а я не разумею, навошта тых ворагаў народа павыпускалі на волю? Яны ж усе – такая пагроза нашай шматпакутнай Радзіме, якая толькі-толькі зноў абрала самага чэснага прэзідэнта. Хай сядзяць, пакуль не паўміраюць! Яны ж самі, пэўна, калі прыйшлі б да ўлады, то не выпусцілі б з турмы нашага адзіна дастойнага прэзідэнта. І ці захацелі б яны даваць народу іхнія чэсна зароблены 500 даляраў? Ой, наўрад! Але нам такога развіцця падзей не трэба баяцца. Бо народ наш амаль на ўсе 100% галасуе за першага прэзідэнта. Прэзідэнту за тое аж няёмка парой перад Захадам, і таму прыходзіцца тыя працэнты падкручваць, каб таму Захаду спадабацца. Ён сам пра гэтааднойчы казаў.

А вось пра мадэрнізацыю нашай сельскай гаспадаркі выступленне правільна склалі. У нас цяпер такія аграгарадкі, што усе еўрапейцы зайздросцяць. Кожны калгаснік жыве амаль як у горадзе! У кожнай хаце ў нас еўрарамонт. Дрэнна толькі, што хаты тыя доўга не стаяць. Тыя, што былі пабудаваны першымі, развальвацца пачынаюць. Але не бяда: не паспявае адна абваліцца, а мы ўжо тры новыя будуем! А з паслання я яшчэ даведаўся, што мы цяпер, аказваецца, рашаем жыватрапешчашчае пытанне з мадэрнізацыяй жывёлагадоўчых ферм. Каб, значыцца, і жывёла ў нас жыла па-людску.

Наогул, нашаму народу патрэбны, на мой розум, тры рэчы: бульба, каб з голаду канчаткова не ляснуць, гарэлка і такі вось прэзідэнт, што любому праўду-матку па цілівізіру ўрэжа. Бульбу мы ўжо пасадзілі. Бог дасць – уродзіць. Гарэлкі ў крамах таксама навалам. Пужаліпужалі нас, што яна стане дужа дарагой, але ж у нашым кіраўніцтве сядзяць усё ж не дурні. Ведаюць, што мы без гарэлкі сёння, як птушка без крылаў, у тым сэнсе, што не ўзляцім высока. Нават да 500-баксавага заробка не даляцім. Няправільна на выбарах пачнём галасаваць, свабоды патрабаваць. А свабода – вось яна: зранку выпіў шкалік – і цэлы дзень свабодны.

З адным толькі ў пасланні я пагаджаюся абсалютна: нас ніхто не зломіць. Мы самі з такім прэзідэнтам любога ворага скруцім у баранні рог. Няхай вораг толькі ткнецца, мы пойдзем у атаку: ён сам з сынамі папераду, як на парадзе Перамогі, а мы за ім ззаду. Хто ж тут устаіць?

**Сенька Крывадушкін.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# Дзе прысесці адпачыць?

У мікрараёне вуліцы Маладзевай у Бешанковічах пражывае, пэўна, больш тысячы чалавек. Амаль каля кожнага шматпавярховіка тут ёсць невялічкая пляцоўка з пясочніцай і арэлямі. Ёсць тут і адна на ўвесь мікраён большая пляцоўка, якая знаходзіцца з тыльнага боку дома №17. Пра яе і пойдзе размова.

Пляцоўка тая заасфальтаваная і мела калісьці прызначэнне, мусіць, для гульні ў хакей. Хаця неабходныя для хакейнай каробкі борцікі тут адсутнічаюць. Побач з заасфальтаванай пляцоўкай ёсць і поле для міні-футбола, парослае высокай травой. Старажылы не могуць прыпомніць, калі на ім апошні раз кіпелі жарсці. Ёсць тут і куток з пясочніцай, арэлямі, маленькай альтанкай і зламанай каруселлю.

Але пляцоўцы сёння знайшлося іншае прызначэнне. У добрае надвор'е тут штовечар збіраюцца мамы з прылягаючых дамоў, якія выводзяць сваіх двух-трох-пяцігадовых дзетак пагуляць. У той час, калі дзеткі займаюцца сваімі няхітрымі справамі, іхнія матулі … садзяцца на закругленне асфальту ўзбоч пляцоўкі і назіраюць за сваімі выхаванцамі. Пагадзіцеся, што гэта не самае зручнае месцазнаходжанне для матуляў. Тым больш, што дзіцячыя гульні на свежым паветры доўжацца часам па некалькі гадзін. А матулі цягам гэтых гадзін змушаны сядзець, мякка кажучы, у нязручнай позе, ці стаяць.

Чамусьці ніхто з пражываючых тут чыноўнікаў ці народных дэпутатаў дасёння не знайшоў часу, каб завітаць на пляцоўку, пагаварыць з людзьмі, распытаць пра іхнія праблемы. Для абсталявання лавак (тут яны прыгадзіліся б і для гледачоў спартовых спаборніцтваў)многа сродкаў не патрэбна. Для людзей жа так неабходна ўвага да іхніх, здаецца, і дробязных праблемаў. Іх вырашэнне стварае людзям настрой і надае упэўненасці ў жыцці. Хто ж ім дапаможа?

**Г.Станкевіч.**

ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ПАДЗЕІ

# ГОД ПАСЛЯ ВІЗІТУ

У гэтыя травеньскія дзянькі роўна год таму Бешанковічы жылі спачатку ў чаканні сустрэчы з першым беларускім прэзідэнтам, а потым доўга яшчэ жылі ўспамінамі пра яе. Ён прыляцеў на верталёце, агледзеў мясцовыя прадпрыемствы, якія былі загадзя падрыхтаваны да агляду, паеў-папіў з абслугай у рэстаране і з'ехаў. А нашы праблемы ўсе засталіся.

З тых дамоў, чые фасады былі падфарбаваныя да візіту, даўно злупілася фарба. Толькі фарбаваць па-новаму іх сёлета ніхто чамусьці не збіраецца. Вось наклейкі-плакаты тыпу "З настаяшчым – у будушчае!" былі летась панаклеены якасныя. Яны за мінулы год нават не вельмі выцвелі. Так што іх можна было ляпіць і гусцей. А на тарцы дома № 4 па вуліцы Будаўнікоў, калі ехаць ад катламаша, побач з плакатам "9-га мая – Дзень Перамогі" відаць дзве вялізныя круглыя дзіркі. Нібыта ад снарадаў з таго 45-га. Сродкаў ці жадання, каб заляпіць іх, за прамінулы год так і не знайшлося.

Згароды, што былі пастаўлены да візіту і спехам пафарбаваны з аднаго боку, сёлета зноў падфарбавалі. І зноў з аднаго боку. Іх ужо трохі перакасіла. На некаторых адсутнічаюць першыя штыкеціны.

На лабачоўскі асфальт і асфальт па вуліцы Будаўнікоў, што блізу "Катламаша", летась убухалі, пэўна, усе сродкі, што выдзяляліся на некалькі гадоў наперад. І, трэба адзначыць, паклалі той асфальт якасна. Сёлета на ім ямак яшчэ няма. Але пасля таго асфальтаўкладання да канца мінулага году і амаль за паўгода 2012-га, акрамя ямкавага рамонту, у райцэнтры, здаецца, не заасфальтавалі аніводнага метру ні дарог, ні ходнікаў.

Меліярацыя блізу птушніка, якую рабілі летась у экстранным парадку, яўна не спраўлялася з сваёй функцыяй. Бо на тым "меліяраваным" полі летась назіралася вялікая розніца ў выглядзе пасеваў. Там, дзе меліяратары не чапалі, летась пасевы выглядалі больш рослымі і гусцейшымі. Гэту з'яву можна будзе назіраць і сёлета. Бо на патрывожанай меліяратарамі зямлі нічога расці не хоча.

Кусты, што былі высечаны да візіту на пашы, дзе выпасаюцца ранчыцкія каровы, пачалі адрастаць. Лаза, тэрмінова высечаная за дзень да візіту, (пэўна, каб там не мог схавацца якісьці дыверсант) так і адлежала цэлы год на зямлі. Яна нікому так і не спатрэбілася, што толькі пацвярджае падазрэнне наконт дыверсантаў. А вось каровам у леташнія спякотныя чэрвеньскія-ліпеньскія дні ад жары было схавацца некуды. Яны, пэўна, і не ведалі, каму яны мусяць быць за тое ўдзячнымі.

Мы ж, простыя смертныя, павінны быць удзячнымі таму высокаму візіту і арганізаваць збор сродкаў, каб паставіць на месцы прызямлення верталёту памятны знак.

**Л.Паўлава.**

МЫ І АЛКАГОЛЬ: ХТО КАГО?

# МЕХАНІЗМ П'ЯНСТВА

Згодна афіцыйных дадзеных за мінулы год у нашым раёне было прададзена 688 220 літраў пладова-ягаднага віна. Гэта лічба сведчыць пра тое, што кожны дзень у нашым раёне выпіваецца каля 3 700 бутэлек гэтага нізкапробнага небяспечнага пойла. Калі ўлічыць, што акрамя гэтага людзі п'юць і вінаграднае віно, і гарэлку, і самагонку, то колькасць штодзённа выпіваемых бутэлек складае ад 5 да 6 000. Насельніцтва ў Бешанковіцкім раёне пражывае крыху больш за 17 000 чалавек. А гэта значыць, што амаль палова прыдзвінцаў п'е штодня.

Небяспека яшчэ і ў тым, што лічба п'яніц з году ў год узрастае. Тыя меры, якімі "змагаецца" з п'янствам існая ўлада, яўна не вытрымліваюць крытыкі. Акрамя паседжанняў камісіі па барацьбе з п'янствам ды гутарак па прапагандзе здаровага ладу жыцця ў раёне нічога не робіцца, каб п'янства спыніць. А п'юць у нас жахліва.

П'юць кіраўнікі калгасаў і дырэктары школ пасля нарадаў. П'юць спартоўцы пасля выйграных ці прайграных спаборніцтваў. Людзі п'юць за здадзены металалом і за здадзены бутэлькі. П'юць на полі і ў лесе, дома і ў гасцях. Са спіртным адзначаюць святы сапраўдныя і ўяўныя. П'юць мужчыны і жанчыны, дарослыя і дзеці, пешаходы і вадзіцелі.

А вось мужыкі-пенсіянеры ў нас п'юць мала. Яны проста не дацягваюць да пенсіі, паміраюць. П'е часцей за ўсё працоўны люд. П'юць на рабочым месцы, але найчасцей пасля працы, калі здолеюць вытрымаць абедзены перапынак. "Сваіх" п'яніц кожны кіраўнік ведае ў твар. І ён не ў стане нічога зрабіць, каб яго каштоўны работнік не піў. Выгнаць такога – не выганіш. Бо прыйдзецца самому за грашы выконваць тую ж брудную работу. Значыць, застаецца проста закрываць вочы на штодзённую п'янку.

І вось уявіце сабе калектыў, у якім штодзень п'е амаль палова "работнікаў". Калі туды трапляе новенькі і ён мае некаторыя схільнасці да ўжывання алкаголю, то цягам двух-трох месяцаў на аднаго алкаголіка ў гэтым калектыве становіцца больш.

Як зрабіць так, каб армія алкаголікаў не папаўнялася новымі героямі? Вось задача нумар адзін для Беларусі. З такой думкай мусіць прачынацца і прэзідэнт краіны і начальнік райвыканкаму. Кіраўнік любога рангу мусіць пастаянна лабіраваць пытанне цвярозасці.

А што ў нас ёсць на самой справе? Начальнікі ўсіх рангаў (за рэдкім выключэннем) – таксама п'юць!

Глядзіш на іхні адрузлы выгляд і думаеш сабе: куды ты ідзеш, Беларусь? Няўжо ты не бачыш, прэзідэнт, куды ты нас завёў за 18 гадоў сваёй адзіна мудрай палітыкі? Не на "сваіх" і "чужых" трэба табе дзяліць беларусаў, а на цвярозых і п'яніц. Не за ўладу табе трэба несупынна змагацца, а даць свабоду тым здаровым цвярозым сілам, якія ёсць у краіне, і якіх ты баішся як агню і штодзень даеш каманду іх душыць. Але, нават пры ўдзеле ўсіх здаровых сілаў грамадства, справіцца з тым алкагольным пажарам, які так шырока ахапіў нашу краіну, будзе крайне няпроста.

На месцах жа пакуль ніхто з алкагалізмам не змагаецца. Чыноўнікі ў нас сочаць толькі за выкананнем прагнозных паказчыкаў у эканоміцы. Яны баяцца, каб іх толькі не турнулі з утульнага крэсла! А тое, што эканоміка тая ў нас базуецца цалкам на прададзенай гарэлцы, іх аніяк не турбуе.

Замест таго, каб прымаць да алкаголікаў самыя жорсткія меры, нашы сапраўдныя міліцыі, па словах іх начальніка Карася Д.А. "штодзённа праводзяць праверку тэрмінаў рэалізацыі алкагольнай прадукцыі, гутаркі па прапагандзе здаровага ладу жыцця, каб дастукацца да сэрцаў людзей, якія сталі на шлях алкагольнай залежнасці." ("Зара" № 39) Быццам працуюць яны ў нейкім санаторыі ці ў піянерскім атрадзе. Не гутаркі трэба праводзіць міліцыянтам і не тэрміны правяраць, а дзейнічаць. Накіроўваць свой спрыт і энергію не на змаганне з "Крывінкай", а весці непрымірымую вайну з алкаголікамі. Не расслабляцца пасля працы за чаркай, а вынаходзіць новыя дзейсныя метады барацьбы са злом.

**У.Ліпскі.**

ЯК ВЫЖЫВАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

# САДЗІМ БУЛЬБУ

Мала хто здагадваецца, што ў сённяшняй Беларусі насельніцтва накопвае больш бульбы, чым калгасы. Апошнія так і не навучыліся вырошчваць другі хлеб, а калі ён і вырастае, то яны не ўмеюць захаваць яго да вясны.

А вось у вёсках, гарадках ды й буйных гарадах кшталту Віцебска ці Мінска напрыканцы красавіка – пачатку траўня пачынаецца сапраўдны бульбяны бум. Хто пад каня, хто матаблокам, а хто пад рыдлёўку – кожны беларус шчыруе на сваіх сотках, каб забяспечыць сабе нейкую гарантыю ад "мудрай" палітыкі сучаснага кіроўцы Беларусі. Не думаю, каб нехта на бульбяным палетку ўсур'ёз разбагацеў, але імкненне есці бульбу без пестыцыдаў і нітратаў, а таксама спрадвечная беларуская "незалежнасць" ад непрадказальнага дзеяння ўладаў прымушае іх штогод брацца за кошык. Толькі самыя найвышэйшыя чыноўнікі ды "эліта" грамадства, якая мае сотні даляраў штодзённага прыбытку не абцяжарвае сябе бульбянымі клопатамі. Але такіх у сучаснай Беларусі не больш за 5 %.

А вось за мяжой бульбу на кожным вольным кавалачку зямлі ніхто ўжо не садзіць даўно. У Нямеччыне гэтым займаюцца толькі фермеры, якія маюць для гэтага неабходную тэхніку і адпаведныя ўраджаі ў 400 – 500 цэнтнераў з гектара і вышэй. Яны прадаюць свой тавар нават проста каля хаты пры дарозе. Бульбу, расфасаваную па кілаграмах, ніхто не ахоўвае. Той, хто спыняецца, забірае патрэбную колькасць бульбы, пакідае свае грошы і едзе далей. Вечарам гаспадар забірае ўсю выручку. Пра выпадкі, каб нехта пакваліўся на чужое, ці ўзяў лішняе я не чуў.

Мы ж яшчэ будзем бульбу садзіць доўга. Па крайняй меры, існы рэжым падрыхтоўвае нас да гэтага. Пакуль ён будзе існаваць, кожны смертны мусіць вясной брацца за рыдлёўку. Ды й той, хто прыйдзе на змену першаму прэзідэнту можа праз 10 ці 15 гадоў, адразу сітуацыю не пераломіць: Беларусь застанецца найбяднейшай краінай ў Еўропе, а таму спадзявацца беларусы могуць толькі на бульбу. Каб толькі не было вайны…

**М.Васільеў.**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# ЯКІЯ ПАРАДКІ ЧАКАЮЦЬ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ Ў «БЕЛЫМ ЛЕБЕДЗІ»?

ДЛЯ АДБЫЦЬЦЯ ПАКАРАНЬНЯ АКТЫВІСТА КХП БНФ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ ЗЬМЯСЬЦІЛІ Ў МАГІЛЁЎСКУЮ КАЛЁНІЮ № 19, ВЯДОМУЮ Ў НАРОДЗЕ ЯК БЫЛЫ ЛТП «БЕЛЫ ЛЕБЕДЗЬ».

21 траўня маці вязьня Лідзія Каваленка атрымала ў віцебскай управе Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў зьвесткі пра тое, куды накіравалі яе сына Сяргея для адбыцьця пакараньня:

19 траўня Сяргея Каваленку накіравалі па этапе зь Віцебскага СІЗА, але куды дакладна — не паведамлялі. Сёньня апоўдні жонка Сяргея Каваленкі Алена ўжо званіла ў Магілёўскую 19-ю калёнію, дзе ёй пацьвердзілі, што яе муж там: «Я ўжо туды тэлефанавала сама. Там ён. Але падрабязна яны нічога не распавялі. Ані пра стан здароўя, ані пра галадоўку. Толькі сказалі, што ў іх, у карантыне». Больш пэўныя зьвесткі пра стан здароўя мужа і тое, ці працягвае ён галадоўку, Алена Каваленка спадзяецца атрымаць ад адваката.

Які ўмовы ўтрыманьня чакаюць Сяргея Каваленку ў 19-й Магілёўскай калёніі?

У гэтай калёніі летась цягам некалькіх месяцаў адбываў пакараньне былы кандыдат на прэзыдэнта Дзьмітрый Вус. Дзьмітрый Вус узгадвае: «Раней там быў лячэбна-працоўны прафілякторый. „Белы лебедзь“ клічуць гэтую калёнію, як раней называлі ЛПП. Там нават ёсьць скульптура лебедзя, яшчэ захавалася на тэрыторыі. Начальнікам калёніі там Чарноў, калі не замянілі. Вязьні працуюць на дрэваапрацоўцы, зьбіваюць паддоны. Ёсьць швачны цэх, ёсьць цэх, дзе плятуць гамакі. Мне там давялося працаваць. Але заробкі там вельмі малыя. Па 10 тысяч. Толькі на швачнай вытворчасьці, калі добра працаваць, можна зарабіць тысяч 100 — гэта максымум».

ЭЎРАЗВЯЗ ПРА НАС

# СПАЧАТКУ ВЫЗВАЛЕННЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ, ПОТЫМ – ДЫЯЛОГ

НІЯКІ ЗМЯСТОЎНЫ ДЫЯЛОГ З УЛАДАМІ БЕЛАРУСІ НЕМАГЧЫМЫ, ПАКУЛЬ НЕ БУДУЦЬ ВЫЗВАЛЕНЫЯ І АДНОЎЛЕНЫЯ Ў СВАІХ ПРАВАХ УСЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ. АБ ГЭТЫМ ЗАЯВІЛА БЕЛАПАН КІРАЎНІК ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС МАЙРА МОРА, КАМЕНТУЮЧЫ ВЫКАЗВАННІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ, ЯКІ АБВІНАВАЦІЎ ЗАХАД І АПАЗІЦЫЮ Ў ЗРЫВЕ ДЫЯЛОГУ З УЛАДАМІ.

«Пасля мер дзеля здушэння грамадзянскай супольнасці, палітычнай апазіцыі і незалежных СМІ, якія адбыліся пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, ЕС не заставалася нічога іншага, як прытрымлівацца жорсткай пазіцыі, — сказала Мора. — Застаючыся прыхільнікам палітыкі крытычнага ўзаемадзеяння, у тым ліку праз дыялог і Ўсходняе партнёрства, Рада замежных справаў 31 студзеня 2011 года вырашыла аднавіць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі. Аднначасова ЕС узмацніў сваё ўзаемадзеянне з беларускім народам і грамадзянскай супольнасцю праз умацаванне падтрымкі грамадзянскай супольнасці і ахвяр рэпрэсій».

«Еўрасаюз прапанаваў Беларусі пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі і пачаў дыялог з беларускім грамадствам аб мадэрнізацыі. Аднак ніякі зьмястоўны дыялог з уладамі немагчымы, пакуль не будуць вызваленыя і адноўленыя ў сваіх правах ўсе палітычныя зняволеныя, якія засталіся. ЕС гатовы паляпшаць і паглыбляць свае адносіны з Беларуссю. Для ЕС Беларусь — важны сусед, неад'емная частка еўрапейскай спадчыны і еўрапейскай супольнасці нацый. Для Беларусі ЕС — адзін з асноўных гандлёвых партнёраў і важны партнёр у галіновым і рэгіянальным развцці. ЕС па-ранейшаму гатовы дапамагаць Беларусі ў справе дэмакратызацыі і мадэрнізацыі», — падкрэсліла Мора.

**"Наша Ніва".**

ЧАРГОВАЕ ПАСЛАННЕ

# ЛУКАШЭНКА УЗБРОІЎСЯ ФІЛАСОФІЯЙ ВЯЛІКАГА ІНКВІЗІТАРА

***З трыбуны Авальнай залы Аляксандр Лукашэнка бліснуў цытатай з Дастаеўскага. Але звярніце ўвагу, што дасталі спічрайтэры з неабсяжнай спадчыны рускага класіка для тэксту штогадовага звароту да народа і парламента. Быў выдраны абрывак фразы аб тым, што «няма для чалавека нічога невыноснай свабоды».***

***Так, у гэтым выступе 8 мая ў Доме ўрада гучалі і тэзісы аб разняволенні ініцыятывы, гатоўнасці вучыцца дэмакратыі. Але ключавой уяўляецца менавіта гэтая цытата.***

***Філасофія беларускай улады чужая, антаганістычная такой фундаментальнай каштоўнасці, як свабода. Народ ўяўляецца неразумным дзіцёнкам, за якога ўсё належыць вырашаць мудраму і ўсемагутнаму бацьку нацыі. І таму з Еўропай, багацце якой заснавана на волі, рэжым заўсёды будзе гаварыць на розных мовах.***

## Еўропе прапануецца грубы чэнж

І ўсё ж у выступе 8 мая відавочна заўважалася жаданне замірацца з праклятымі буржуінамі. Як адзначыў у каментары для Naviny.by палітычны аналітык Юрый Дракахруст, «акцэнт, зроблены на адносінах менавіта з Захадам, з'яўляецца сігналам, што беларускага лідэра некалькі гняце аднабаковая інтэграцыя». У той жа час, падкрэслівае наш суразмоўца, Лукашэнка «хацеў бы нармалізацыі адносін з ЕС і ЗША, зразумела, на ўмовах, блізкіх да яго пазіцыі запыту».

Запыт жа - дашчэнту прагматычны, зазямлены. Лукашэнка педалюе грубыя матэрыі, нагадваючы, што ў нас з ЕС вялікі аб'ём гандлю. Мэседж празрысты: прынцыпы прынцыпамі, але свабоду на хлеб не намажаш, а вы ж хочаце купляць нашу салярку, калій ... Яшчэ кіраўнік Беларусі падкрэсліў, што «нельга забываць аб іншых сферах нашага ўзаемадзеяння: спыненні нелегальнай міграцыі, наркатрафіку, кантрабанды, уключаючы незаконны абарот ядзерных, радыеактыўных матэрыялаў, зброі».

Вельмі адчувальны для слабанервных бюргераў набор кодавых слоў! Для ўзмацнення эфекту бумеранга ў адказ на санкцыі Мінск нядаўна нават злёгку папугай заходніх суседзяў тым, што аслабляе фільтраванне нелегалаў. Глядзіце, маўляў, будзеце залішне наязджаць на «апошнюю дыктатуру Еўропы» - захлынецца мігрантамі ды наркотой!

Інакш кажучы, рэжым ўпарта хоча навязаць сябе заходнікам такім, які ён ёсць. З гэтымі зацыкленымі на сваіх каштоўнасцях дзівакамі беларускія ўлады не супраць жыць мірна, аказваючы некаторыя паслугі і нават робячы дробныя саступкі, але пры жалезным умове: **не перашкаджайце кіраваць краінай так, як мы хочам!**

З выступу ў выступ вандруе рытарычнае пытанне: ну каму мы перашкаджаем? Крыштальная мара беларускага кіраўніцтва - каб Стары Свет і Штаты з ім змірыліся, як змірыліся з Назарбаевым ці Аліевым. Добра гэтым багацейчыкам - нафтавым Бураціна!

Але сінявокай рэспубліцы па шэрагу прычын не так прывольна. На думку менскага аглядальніка-міжнародніка Андрэя Фёдарава, да замірэння з Еўрасаюзам і Вашынгтонам беларускага кіраўніка штурхае не альтруізм, не прыліў дабрадушнасці, а дзеянне двух непрыемных фактараў. Першы - асцярога, што Крэмль ўзмоцніць (а ён напэўна ўзмоцніць) прэсінг. Другі - патрэба ў заходніх грошах: крэдытах для аддачы ранейшых даўгоў, а таксама - інвестыцыі для мадэрнізацыі, адзначыў аналітык у каментары для Naviny.by.

## У Пуціна няма рэсурсаў задушыць

Пры гэтым для Лукашэнкі крытычна важна не пасварыцца з новым-старым гаспадаром Крамля. Юры Дракахруст адзначае дзіўную скупасць паслання па частцы адносін з Расіяй і еўразійскай інтэграцыі: «Здавалася б, толькі ўчора заступіў на пасаду прэзідэнт саюзнай дзяржавы, які абвясціў стварэнне Еўразійскай саюза адным з прыярытэтаў свайго кіравання, у бліжэйшыя месяцы трэба будзе заключыць больш за 50 пагадненняў у рамках АЭП, якія ахопліваюць самыя разнастайныя сферы эканамічных адносін ... Аднак менавіта на гэтую тэму па сутнасці нічога не было сказана ».

Рызыкнем выказаць здагадку: Лукашэнка варожыць, як павядзе сябе Уладзімір Пуцін, наколькі рэзка паставіць пытанне платы па вэксалях гэтай самай еўразійскай інтэграцыі. Гэта псіхалагічнае напружанне, здаецца, прарвалася ў адказе Лукашэнкі на адзін з дэпутацкіх пытанняў. Маўляў, «калі нехта спадзяецца, што вось Пуцін прыйшоў - заўтра нас пачнуць душыць, пятлю на шыю накінуць, не дачакаюцца». Цікавая матывацыя: «Па-першае, для гэтага ў Пуціна няма рэсурсаў; па-другое, гэта сабе на шкоду».

Аналітыкі, аднак, прадказваюць трэння ўжо ў хуткім часе, і ў першую чаргу па частцы прыватызацыі. Лёгка расставацца з актывамі беларускае начальства не збіраецца. У гэтым плане паказальная завочная палеміка Лукашэнкі з нейкім неназваным «дзеячам ў Расеі», які, маўляў, «вядучы перамовы аб акцыянаванні МАЗа, заявіў: Беларусь занадта вялікую цану заламала на перамовах».

«Не задавальняе - не хадзі сюды», - адрэзаў кіраўнік Беларусі. Пытанне, аднак, у тым, як тады выканаць ўмова атрымання крэдыту ЕўрАзЭС - прадаваць актываў на 2,5 мільярда даляраў у год. З расейцамі, як бачым, размова будуецца па прынцыпе «... а тытунь паасобку»; заходнікі ж па вядомых прычынах на беларускія прадпрыемствы не накінуцца.

## Ціхае спаўзанне ў Азіёпу

Лукашэнка не казаў адкрытым тэкстам аб вызваленні палітвязняў, што з'яўляецца галоўным патрабаваннем Еўрасаюза, але даручыў ураду «аператыўна падрыхтаваць праект закона аб амністыі, якую мы зможам прымеркаваць да нашага галоўнаму дзяржаўнаму святу - Дню незалежнасці». Такі шырокі жэст дазволіў бы уладам захаваць твар, растварыўшы вызваляюцца палітвязняў («нягоднікаў», як выказаўся афіцыйны лідэр) у масе «годных людзей».

У адказ ЕС мог бы замарозіць, а потым і адмяніць санкцыі супраць рэжыму. Гэта значыць адкрутка адносін да стану на 18 снежня 2010 года, за дзень што ўміг паламаў ўсе разгон Плошчы, рэальная. Але не больш. Паводле прагнозу Андрэя Фёдарава, гэта будзе стабілізацыя на нізкім узроўні, «нейкі варыянт халоднага свету».

Аднак Менску патрэбныя заходнія грошы. І калі тут спадзяюцца на прыліў даляраў-еўра-фунтаў асабліва ў абмен на тое, што ў сінявокай рэспубліцы «зноў не б'юць і не саджаюць за палітыку», то могуць пралічыцца, мяркуе Фёдараў.

Лукашэнка павесіў на апазіцыю і Захад зрыў планаў ўнутранай лібералізацыі. Прызнаўся, што пару гадоў таму ў вярхах абмяркоўвалася рэформа выбарчай сістэмы, разглядаўся варыянт выбараў у парламент па партыйных спісах.

Асобнае пытанне: чаму друзлы, не схільны да рэзкіх рухаў Еўрасаюз, які абяцаў за больш-менш прыстойнае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў 2010 года тры мільярды еўра, стаў раптам душыць? Гэта трэба было моцна паспрабаваць, беспрэцэдэнтна раскруціўшы махавік рэпрэсій, пасадзіўшы за краты на вялікія тэрміны больш чатырох дзясяткаў «дзекабрыстаў», у тым ліку некалькіх экс-кандыдатаў; зачысціўшы ў краіне ўсё, што яшчэ варушылася.

Але галоўнае пытанне вось у чым: а каму патрэбныя рэформы ў Беларусі? З кантэксту паслання выходзіць, што Брусэлю ды Вашынгтону. Але па справе краіну даўно варта апгрэйдзіць дзеля выратавання яе будучыні. Інакш - лёс паўкалоніі, вечнага прыдатка, змрочнай тэрыторыі на абочыне цывілізаванага свету.

Гэта не Захад загубіў працэс, гэта незмяняльная кіруючая вярхушка прыносіць у ахвяру перспектывы Беларусі дзеля пралангацыі свайго панавання. Пры нязменнасці «беларускай мадэлі» шлях адзін - «паўзучая, з воплескамі свавольства, але няўмольная інкарпарацыя ў Расію, ціхае спаўзанне ў Азіёпу», прагназуе Андрэй Фёдараў.

**Краіна ўперлася ілбом ў сцяну несвабоды - эканамічнай, палітычнай, духоўнай.** Улада спрабуе апраўдаць сваю замшэласць інтрыгамі ворагаў і нібыта негатоўнасцю беларусаў да жыцця без пугі.

Лукашэнка, як вядома, нават перасунуў пасланне, каб спічрайтэры дапрацавалі. Яны, трэба меркаваць, і вывудзілі цытату з Дастаеўскага аб нязноснасці волі. Стараліся, але, як прымеціла публіцыст Святлана Калінкіна, падставілі шэфа. Бо гэта не Дастаеўскі сказаў. У «Братах Карамазавых» гэтыя словы гучаць з вуснаў Вялікага інквізітара ў спрэчцы з Хрыстом. Які ўдар з боку класіка!

**Аляксандр Класкоўскі, БелаПАН.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# МІЛІНКЕВІЧ ПРА ЎРАД У ВЫГНАННІ: «НЕ БАЧУ СЭНСУ»

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ», КАНДЫДАТ АД АБ'ЯДНАНАЙ АПАЗІЦЫІ НА ВЫБАРАХ 2006 АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ — ПРА ІНІЦЫЯТЫВУ УЛАДЗІМІРА БАРАДАЧА АБ УРАДЗЕ Ў ВЫГНАННІ.

«Лёс Беларусі вырашаецца толькі ўнутры Беларусі. Не ў Варшаве, ці Вільні. Трэба працаваць з грамадствам тут. Я не бачу сэнсу ў такі прапановах. Усё, што магчыма рабіць з-за мяжы, і так робіцца.

Канечне, у апазіцыі ёсць праблемы. Яна маргіналізуецца і раздробленая, ад 2007 няма лідара, але іх не вырашаць такія штучныя ўтварэнні, як урад у выгнанні. Паўтаруся, што трэба рабіць усё магчымае менавіта тут.

Ад такога ўрада будзе, безумоўна, шкода беларускаму народу. Прапаганда таксама скарыстае гэта ў сваіх мэтах, што апазіцыя на замежныя грошы працуе за мяжой.

Гэта таксама выгадна і Маскве, калі апазіцыя з'едзе за мяжу».

***Чытаць цалкам* http://nn.by/?c=ar&i=73639**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ЧЫМ РАСПЛАЦЯЦЦА БЕЛАРУСЫ ЗА 500-ДАЛЯРАВУЮ ЗАРПЛАТУ?

ТЭМПЫ РОСТУ ЗАРПЛАТЫ ЗА ПЕРШЫЯ ТРЫ МЕСЯЦЫ ДЭМАНСТРУЮЦЬ, ШТО ПРЫ ЖАДАННІ ЎЛАДЫ МОГУЦЬ ДА КАНЦА ГОДА НАВАТ ПЕРАСЯГНУЦЬ ДАКРЫЗІСНЫ ЎЗРОВЕНЬ ЗАРПЛАТЫ Ў 500 ДАЛЯРАЎ. АЛЕ ЦІ ВЫТРЫМАЕ ТАКУЮ НАГРУЗКУ ЭКАНОМІКА?

«Нам ўсё ж такі на ўзровень 500 долараў да канца года трэба выходзіць, як мы і дамаўляліся», - заявіў Аляксандр Лукашэнка ў чацвер, прымаючы з дакладам старшыню Федэрацыі прафсаюзаў Леаніда Козіка. Тым часам сярэдняя заработная плата па краіне ў сакавіку дасягнула амаль 400 даляраў (395), і вырасла ў параўнанні з сярэдняй зарплатай у студзені на 50 даляраў.

Сваю ролю ў гэтым згуляў не толькі намінальны рост рублёвай заработнай платы (амаль на 280 тысяч рублёў або на 10%), але і ўмацаванне курсу - на канец студзеня ён складаў 8370 рублёў за даляр, а сакавіцкую зарплату мы пералічвалі ўжо па «акругленаму» курсе у 8000 рублёў.

Такіх тэмпаў цалкам дастаткова, каб да канца года дасягнуць і нават перасягнуць планку ў 500 даляраў пры «які стаіць курсе». Калі ж дадаваць па 50 даляраў, то з дакрызіснай зарплатай можна ўжо «выходзіць» на парламенцкія выбары, якія, як плануецца, пройдуць у верасні.

Асноўным пытаннем росту даляравай заработнай платы з'яўляецца яе магчымае ўплыў на экономіку і, перш за ўсё, фінансавую сферу. Бо, па меркаванні шматлікіх экспертаў, менавіта разгон зарплаты 2010 года паклаў на лапаткі фінансавую сістэму ў 2011 годзе.

Па выніках першага квартала 2010 года сярэдняя зарплата па краіне па сярэдняму за квартал курсе склала 357 даляраў супраць 364 даляраў у першым квартале бягучага года. Такім чынам, тэмп росту павінен быць прыблізна такім жа, як і ў 2010 годзе, пры практычна поўнай адсутнасці дэвальвацыі, што можа негатыўна адбіцца на стабільнасці фінансавай сістэмы.

### Бюджэт фарміруецца з дэфіцытам

Ужо сёння можна казаць аб уплыве росту заработнай платы на паказчыкі бюджэту. Рэспубліканскі бюджэт па выніках квартала фармуецца з дэфіцытам, прычым тэмп расходавання бюджэтных грошай на сацыяльную сферу (ужо выдаткавана амаль 23% ад плана) перавышае тэмпы выдаткаў на нацыянальную экономіку (18,1%). Зрэшты, гэта дазволіла павялічыць разрыў у заработнай плаце ў такіх бюджэтных сферах, як адукацыю і ахову здароўя ў параўнанні з першым кварталам 2010 года. У адукацыі сярэдняя заработная плата за I квартал 2012 больш чым на 50 даляраў перавышае сярэднюю зарплату за I квартал 2010 года, у ахове здароўя - на 32 даляра. Хоць, адзначым, што дадзеныя Белстата за першы квартал 2010 дадзены па галінах эканомікі, а не па відах эканамічнай дзейнасці, па якіх Белстат лічыць заработную плату ў апошні час.

**Ірына Арлова, www.zautra.by**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖСЕКТАР: СКАРАЦІЦЬ НЕЛЬГА ПАКІНУЦЬ

БЕЛАРУСЬ СЁННЯ ДЭКЛАРУЕ, ШТО ПРАКТЫЧНА КОЖНАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА МОЖА БЫЦЬ ПРАДАДЗЕНА. АДНАК, ІСНУЮЦЬ ВЯЛІКІЯ СУМНЕВЫ, ШТО ЎЛАДЫ ПОЙДУЦЬ НА НЕЙКУЮ МАШТАБНУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ - ІСНУЮЧАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ МАДЭЛЬ, ЯК ПАКАЗВАЮЦЬ ФІНАНСАВЫЯ ПАКАЗЧЫКІ, ЦАЛКАМ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПРАЦЫ ДЗЯРЖСЕКТАРА. ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕЦЕ NAVINY.BY ЎДАЛОСЯ ДАВЕДАЦЦА, ЯКУЮ РОЛЮ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ ГУЛЯЮЦЬ СЁННЯ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВЫ. ІХ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗАПАТРАБАВАЛА Б КАРЭННАГА ПЕРАГЛЯДУ ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў КРАІНЕ.

### Эканоміка з дзяржаўным тварам

Каб ацаніць уплыў дзяржсектара на беларускую эканоміку, дастаткова зірнуць на тое, хто кантралюе ў краіне асноўныя аб'ёмы прамысловай вытворчасці.

У грашовым выражэнні, нагадаем, аб'ём прамысловай вытворчасці склаў у 2011 годзе амаль 337 трл. рублёў. У тым ліку, як атрымалася высветліць інтэрнэт-газеце Naviny.by, на долю дзяржсектара ў мінулым годзе прыйшлося больш за 70% прамысловай вытворчасці. Амаль 4000 дзяржаўных прадпрыемстваў (і арганізацый з доляй дзяржуласнасці), якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай, зрабілі ў мінулым годзе прадукцыі на 242,5 трлн. рублёў.

Паказальна, што найбольшы аб'ём прадукцыі вырабілі дзяржпрадпрыемствы Гомельскай і Віцебскай абласцей (адпаведна, на 61,4 трлн. і 50,9 трлн. рублёў), што заканамерна - у названых абласцях размяшчаюцца нафтаперапрацоўчыя заводы. Дарэчы, доля канцэрна «Белнафтахім», якому падведамных беларускія НПЗ, у агульным аб'ёме прамвытворчасці склала ў 2011 годзе 29,8%.

Яшчэ адна важная адметная асаблівасць беларускага дзяржсектара - высокая занятасць. У сценах дзяржпрадпрыемстваў, а таксама ў арганізацыях з дзярждоляй працавала ў 2011 годзе парадку 1,75 млн. чалавек. Гэта больш за палову (50,8%) ад спісачнай колькасці работнікаў ўсіх (за выключэннем суб'ектаў малога прадпрымальніцтва недзяржаўнай формы ўласнасці) беларускіх арганізацый.

Што тычыцца ўнёску дзяржсектара ў паказчыкі знешняга гандлю (экспарту), то тут важна ўлічваць адну акалічнасць. Асноўныя экспартныя патокі Беларусі ідуць праз арганізацыі, якія фармальна з'яўляюцца прыватнымі («Беларуская калійная кампанія», «Беларуская нафтавая кампанія»). Адсюль, дарэчы, вось такі парадокс: экспарцёрамі беларускіх нафтапрадуктаў з'яўляюцца ... суб'екты малога прадпрымальніцтва. У 2011 годзе гэтыя самыя суб'екты накіравалі на экспарт 13,27 млн. тон нафтапрадуктаў (усяго было экспартавана ў мінулым годзе 15,6 млн. тон нафтапрадуктаў).

### Дзяржсектар Беларусі: як ён працуе

Аднак прыведзеныя дадзеныя зусім не азначаюць, што ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы здольныя генераваць прыбытак. Эксперты Сусветнага банка, прааналізаваўшыя становішча спраў у рэальным сектары эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што дзяржаўныя вытворчыя аб'яднанні дазваляюць маскіраваць стратнасць адных прадпрыемстваў за кошт прыбытку іншых.

«Вертыкальная інтэграцыя дазваляе маскіраваць неэфектыўнасць ўнутры дзяржпрадпрыемстваў, так як прыбытковыя кампаніі займаюцца крыжаваным субсідаваннем стратных», - гаворыцца ў даследчай працы экспертаў Сусветнага банка, прысвечанай становішчу дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў у машынабудаўнічай галіны Беларусі.

У сваёй працы, якая вясной гэтага года была апублікавана на сайце Сусветнага банка, эксперты падрабязна распісваюць схему, якая дазваляе неэфектыўным беларускім дзяржпрадпрыемствам жыць за кошт іншых.

Прааналізаваўшы дзейнасць машынабудаўнічых прадпрыемстваў, эксперты прыйшлі да высновы, што прыватныя і дзяржаўныя прадпрыемствы ва ўмовах Беларусі паводзяць сябе па-рознаму.

Калі падзенне попыту прыводзіць да падзення продажаў і прыбытку, гаворыцца ў даследаванні, прыватныя прадпрыемствы зніжаюць занятасць і аб'ёмы вытворчасці, павялічваючы тым самым прадукцыйнасць. «У той жа час дзяржпрадпрыемствы не зніжаюць колькасць занятых, і, такім чынам, калі зніжаецца іх прыбытак, зніжаецца і прадукцыйнасць», - адзначаюць у сваім даследаванні эксперты Сусветнага банка.

Паводле інфармацыі Naviny.by, да гэтага часу Сусветны банк падрыхтаваў новы краінавы эканамічны мемарандум, у якім як раз і разглядаецца эфектыўнасць прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі. Па наяўнай інфармацыі, эксперты банка, прааналізаваўшы стан рэальнага сектара эканомікі Беларусі, прыйшлі да высновы, што нашай краіне варта пайсці на трансфармацыю дзяржсектара.

**Дзмітрый Заяц.**

ПРАПАНОВЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ШУКАЮЦЬ ВЫХАД З ЗАКАНАДАЎЧАГА ТУПІКА

У БЕЛАРУСІ РАСПРАЦАВАНЫ ПРАЕКТ ЗАКОНА АБ ІНДЫВІДУАЛЬНЫМ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВЕ. АЎТАРАМІ ПРАЕКТУ ВЫСТУПІЛІ ЭКСПЕРТЫ РГА «ПЕРСПЕКТЫВА». ЯК РАСТЛУМАЧЫЎ NAVINY.BY КІРАЎНІК ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ АНАТОЛЬ ШУМЧАНКА, «ЗАКАНАДАЎЧАЕ РЭГУЛЯВАННЕ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ ЗАЙШЛО Ў ТУПІК. ПРЫ ГЭТЫМ КОЛЬКАСЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ЖАДАЮЧЫХ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ СКАРАЧАЕЦЦА З ГОДА Ў ГОД ».

### Па шляху стагнацыі

Паводле экспертных ацэнак, з-за леташняга крызісу беларускі бізнэс страціў да 60% абаротнага капіталу. Нягледзячы на пазітыўныя тэндэнцыі ў эканоміцы ў гэтым годзе прадпрымальніцкі сектар стагнуе, што і пацвярджаюць дадзеныя афіцыйнай статыстыкі.

У студзені-сакавіку 2012 года колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі зменшылася на 5,4% у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду і склала 246.155 чалавек.

Зніжэнне колькасці ІП адбылося ва ўсіх рэгіёнах, за выключэннем Мінска, дзе колькасць прадпрымальнікаў вырасла на 0,6% да 73 353. У Брэсцкай вобласці зарэгістравана 34.087 ІП (на 5,1% менш), у Віцебскай - 25.824 (на 12,5%), Гомельскай - 27 339 (9,8%), Гродзенскай - 28376 (на 7,1% ), Мінскай - 34 102 (на 7,6%), Магілёўскай - 23.074 (на 4,7%).

Па словах Анатоля Шумчанка, «дзяржава нас ва ўпор не бачыць. А грамадству між тым прадастаўляецца прыгожая карцінка праз дзяржСМІ. Прычым, прадпрымальнікаў лічаць, як быдла - па колькасці галоў. Ідзе проста канстатацыя фактаў: ІП у краіне столькі, падаткаў заплацілі столькі-то. Але такое стаўленне нас не задавальняе ».

Кіраўнік «Перспектывы» лічыць, што раз улады так заўзята імкнуцца даводзіць да прадпрыемстваў і чыноўнікаў планавыя паказчыкі, нядрэнна было б збянтэжыць чыноўнікаў і планавымі паказчыкамі па развіцці сектара ІП. «І хай яны даюць справаздачу, апраўдваюцца, чаму малы бізнэс у краіне не развіваецца», - адзначае Шумчанка.

Але чыноўнікі сёння заклапочаныя іншымі праблемамі, сярод якіх асабняком стаіць пытанне напаўнення бюджэту. І вырашаючы гэтае пытанне, чыноўнікі ніяк не могуць спрыяць развіццю прадпрымальніцтва. Бо грошы, а сумы-то не капейкавыя, выпампоўваецца як раз з малога бізнэсу. Якое тут развіццё?! І шматлікім чыноўнікам абсалютна фіялетава, што з-за зніжэння пакупніцкай здольнасці ў прадпрымальнікаў падаюць выручка і абаротны капітал.

«У Гомелі, напрыклад, у апошні час значна вырасла колькасць праверак. Праходзяць штодзённыя рэйды, выносяцца рашэння аб канфіскацыі тавараў за розныя парушэнні і налічваюцца велізарныя штрафы - ад 10 да 30 млн. рублёў », - распавёў прадпрымальнік з Гомеля Жанна Губкіна.

Па словах прадпрымальніка, такую актыўнасць правяраючых некаторыя ІП звязваюць з «Дажынкамі», якія, як чакаюцца, пройдуць у наступным годзе ў Гомелі. «Прайшла інфармацыя, што гораду трэба каля 450 млрд. рублёў, і гэтыя грошы будуць збіраць з ІП», - адзначыла Губкіна.

Гомельскія чыноўнікі, па словах Жаны Губкіна, знаходзяць і больш арыгінальныя спосабы канфіскацыі сродкаў у бізнэсу: «Напрыклад, прадстаўнікоў бізнесу, якія маюць гандлёвыя кропкі, у прыватнасці, крамы, размешчаныя побач са святлафорамі, абавязваюць гэтыя святлафоры абслугоўваць».

Прадпрымальнік патлумачыла, што святлафоры святлодыёдныя і, мабыць, не разлічаны на маразы, а таму часта выходзяць з ладу. Для горада іх абслугоўванне - гэта вялікія выдаткі. «Вось улады і вырашылі павесіць гэтыя святлафоры на бізнес, каб ён нёс гэтыя выдаткі», - падкрэсліла Губкіна.

**naviny.by**



**Заснавальнік і рэдактар:**
Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 27.05.2012 у 18.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.